Адказны рэдактар Андрэй Александровіч
Тэхнічны рэдактар В. Свірыдаў.
Адказны карэктар Я. Раманоўская

Здана ў набор 21/XII 1933 г.
Падпісана да друку 10/I 1934 г

Фармат паперы 61,5×94 см — 3 арк. — Тыраж 100 тыс. экз.

Упаўнаважаны Галоўлітбела № В. 505.—Заказ № 1124.

Друкарня Беларускай Акадэміі Навук.

# АБ ЗМЕНАХ І СПРАШЧЭННІ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСА.

## ПАСТАНОВА СОВЕТА НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР.

Кастрычніцкая рэволюцыя адкрыла велізарныя магчымасці для паспяховага развіцця беларускай культуры, нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу. Беларуская мова з пагарджанай стала роўнаправаўнай мовай у вялікім Совецкім саюзе, мовай пераважнага карыстання паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі арганізацыямі БССР, пры захаванні поўнага роўнаправаўя беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай моў.

У выніку няўхільнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі, пры брацкай штодзённай дапамозе Совецкага саюза, працоўныя масы Беларускай Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі дасягнулі велізарнейшых поспехаў ва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Гэтыя поспехі дасягнуты ў барацьбе з вялікадзяржаўным шавінізмам, які імкнецца „абыйсці нацыянальную розніцу мовы, культуры, быта“ (Сталін), і ў барацьбе з контррэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмакратызмам.

Беларускі нацыянал-дэмакратызм, выходзячы з сваіх буржуазных, контррэволюцыйных мэт, праводзіў падрыўную, шкодніцкую работу як на гаспадарчым, так і на культурным фронце, у тым ліку і ў галіне мовы, тэрміналогіі і правапіса. Нацыянал-дэмакратызм імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, ствараў штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі і засмечваў беларускую мову рознымі сярэдневяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі.

Існуючы беларускі правапіс значна засмечан указанымі нацыянал-дэмакратычнымі плынямі і таму падлягае зменам.

У мэтах рашучага выгнання з беларускага правапіса нацыянал-дэмакратычных уплываў і скажэнняў, палягчэння шырокім працоўным масам вывучэння беларускай пісьмен-

насці, аслабанення школы ад непрадукцыйнай работы пры вывучэнні беларускага правапіса, у мэтах далейшага развіцця культуры беларускай мовы і поўнага падпарадкавання беларускага правапіса задачам выхавання працоўных мас у духу пролетарскага інтэрнацыяналізма, Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе ўнесці ў існуючы правапіс наступныя змены:

## Правапіс галосных.

1. Пісаць „я" замест „е" толькі ў першым складзе перад націскам (зямля, вядзе). Ва ўсіх іншых выпадках як перад націскам, так і пасля націска, пісаць „е" (велізарны, ваенізацыя, невысокі).

Гэтую змену не пашыраць на этымалагічнае „я", якое застаецца нязменным і ў ненаціскных складах, і на „я" ў канчатку слоў (ярына, памяць, рэволюцыям).

2. „Не" і „без", калі яны стаяць асобна, заўсёды пісаць праз „е".

3. Перад пачатковымі націскнымі галоснымі „о", „у" заўсёды пісаць „в", за выключэннем геаграфічных назваў (Орша, Ула). Перад ненаціскным (восень, вучань, вобраз, але: Орша, Ула). Перад ненаціскным „у" пісаць „в" тады, калі гэтае „у" не з'яўляецца прыставачным і не развілося з „в" (вучыцца, але: урад, улада, увага, участак, удзел).

## Правапіс зычных.

4. Выкінуць мяккі знак з напісання паміж мяккімі зычнымі, напрыклад, свет, снег, след, зняць, дзверы, цвёрды. Мяккі знак захаваць перад мяккім зычным толькі ў тых словах, у якіх ён пішацца і перад цвёрдым зычным (пісьмо, на пісьме і г. д.)

5. Таксама выкінуць мяккі знак паміж падоўжанымі зычнымі, напрыклад, насенне, галлё, калоссе, жыццё, але: лье.

Губныя зычныя і „р" не падоўжваюцца (давер'е, сям'я, б'ецца).

Падоўжанае „дз" перадаваць на пісьме праз „ддз" (суддзя, разводдзе).

6. У злучэннях карэннага „д" з гукам „с" наступных суфіксаў нязменна захаваць „с" (гарадскі, грамадскі).

7. Зычныя „г", „ж", „з", „к", „ш" у геаграфічных назвах не зліваць з суфіксальным „с", прычым „г", „к", „х" у большасці выпадкаў змяняць на „ж", „ш" (волжскі, каўказскі, варонежскі, чэшскі).

У некаторых геаграфічных назвах „г", „к", „х" не змяняюцца на „ш", „ж", „ц" (выбаргскі, цурыхскі, узбекскі, маздокскі).



У беларускіх словах „ж" і „ш" перад суфіксальным „с" не пісаць (мноства, прыгоства, таварыства, харавство).

8. Для вызначэння раздзельнага вымаўлення зычнага з наступным галосным заўсёды пісаць апостраф (аб'ява, з'ява, суб'ект, кан'юнктура, Лавуаз'е). Выключэннем з гэтага правіла з'яўляецца „л", пасля якога пісаць мяккі знак (Ільіч, Васільеў, рэльеф, Мальер, лье).

## Правапіс слоў іншамоўнага паходжання.

9. Інтэрнацыянальныя рэволюцыйныя словы не падпарадкоўваць агульнаму правілу аб аканні. Пісаць: рэволюцыя, совет, большэвік, комуна, соцыялізм, комунізм, Комінтэрн, пролетарый. У астатніх іншамоўных словах „о" пісаць праз „а", але захаваць „е" („э") (прафесар, маналог, тэлеграф).

10. Іншамоўнае „е" („э") пасля зычных перадаваць праз „е", за выключэннем выпадкаў пасля „д" і „т", калі іншамоўнае „е" („э") перадаваць праз „э" (методыка, геаграфія, педагог, эпапея, эстафета, фанетыка, але: дэлегат, матэрыялізм, тэатр).

У даўно запазычаных словах „е" („э") перадаваць праз „а", „я" (гандаль, характар, літаратура, адрас, сакратар).

11. Словы іншамоўнага паходжання з „l" („л"), як правіла, перадаваць на беларускім пісьме згодна традыцыйнага, пашыранага ў БССР вымаўлення, г. зн. пераважна цвёрда: метал, бензол, алмаз, вулкан, балкон, Алтай, Балтыка, Балканы, малекула, фабула, формула, аэраплан, бланк, клас, ланцэт, лафет, план, плагіят, платформа, пракламацыя, план, апладысменты, блок, глобус, дыплом, кіло, кілограм, калонія, лакамабіль, пілот, блуза, клуб, лупа.

Але ў тых выпадках, калі ў жывой мове іншамоўнае „l" („л") вымаўляецца мякка, пісаць „л" мяккае: бінокль, аўтамабіль, мараль, стыль, вадэвіль, педаль, дэталь, альфа, альт, асфальт, астралябія, пляж, ляпсус, ляпіс, алюміній, ілюмінацыя, люк, плюс, валюта, абсалютызм, люстра.

Паслядоўна мяккае „л" пісаць у злучэннях—„ляваць", „люцыя", „ляр", „лярны", „лятар", „льны": фармуляваць, ізаляваць, рэволюцыя, эвалюцыя, перпендыкуляр, капілярны, палярны, рэгулятар, акумулятар, кампілятар, актуальны, універсальны.

У іншамоўных словах пасля „с", „з" заўсёды пісаць „і": марксізм, сістэма, фізіка, універсітэт, але: музыка.

12. Іншамоўнае „th" („т"), грэцкае „θ" (фіта), перадаваць пераважна праз „ф": арыфметыка, арфаграфія, лагарыфмы, пафас, міф, Афіны, кафедра; але: тэатр, тэзіс, тэорыя, метад.

13. Іншамоўнае „f" („ф"), грэцкае „φ" (фі) ва ўсіх выпадках перадаваць праз „ф": форма, фунт, фантазія, тыф, торф, фабрыка.

14. Злучэнні „тр“, „др“ у канцы слоў іншамоўнага паходжання перадаваць без змен: метр, літр, барометр, дыяметр.

15. Словы іншамоўнага паходжання, як „пролетарый“, „барый“, „алюміній“, якія раней пісаліся з канчаткамі „ы“, „і“ або зусім без канчаткаў,—пісаць з канчаткамі „ый“, „ій“ і скланяць як беларускія назоўнікі тыпу „май“.

16. Словы як комуніст, социяліст, марксіст пісаць без канчатка „ы“ і скланяць не як прыметнік (комуністага, комуністаму), а як назоўнікі тыпу „брат“—комуніст, комуністу.

## Правапіс уласных імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў.

17. Імёны іншых моў і геаграфічныя назвы пісаць з захаваннем асаблівасцей той мовы, з якой яны ўзяты, але падпарадкаваць наступным правілам беларускага правапіса:

а) аб аканні (з захаваннем „э“, „е“): Чэрнышэўскі, Шэўчэнка, Плеханаў, Жэлезноў, Ноўгарад, Екор'еўск;

б) аб напісанні галосных пасля зацвярдзелых зычных: Чэлябінск, Жытомір, Чыстаполь, Чэрэпавец;

в) аб дзеканні і цэканні, калі зычныя „д“ і „т“ з'яўляюцца мяккімі ў іншай мове (Дзержынскі, Владзівасток, Дзюрынг);

г) правілам аб пераходзе „в“ у „ў“ на канцы складоў: Молатаў, Варашылаў, Кіеў, Каўказ;

д) імёны іншых моў і геаграфічныя назвы не перакладаць як у поўным напісанні, так і ў скарочаным; пачатковае „О“, „В“, „Т“, „Сч“ перадаваць праз „О“, „В“, „Т“, „Сч“: Іосіф Вісарыёнавіч Сталін, І. В. Сталін, Орджанікідзе, Терехаў, Владзікаўказ;

е) уласныя беларускія імёны пісаць паводле жадання іх носьбітаў:

Васіль або Базыль
Осіп або Язэп
Іван або Янка
Міхаіл, Міхал або Міхась

## МАРФАЛОГІЯ.

18. Назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку пісаць пераважна з канчаткамі „а“, „я“: завода, цэха, трактара, інстытута, социялізма, універсітэта, правапіса, але: жалю, болю, гаю, лесу, краю, цэменту.

19. Выключыць паралельныя формы „ом“, „ох“ у назоўніках мужчынскага і ніякага роду ў давальным і месным склонах множнага ліку; пісаць: кіраўнікам, аб кіраўніках, братам, аб братах, гарадам, аб гарадах, плячам, аб плячах.



20. Уніфікаваць залежныя склоны лічэбнікаў: два і дзве, абодва, абедзве; для ўсіх трох радоў пісаць: двух, абодвух, двум, абодвум; двума, абодвума; на двух, на абодвух.

21. Выключыць паралельныя формы дзеясловаў на „яце“, „іце“ першага спражэння цяперашняга часу другой асобы множнага ліку, пісаць толькі: працуеце, чытаеце, ідзеце, вядзеце, нясеце.

22. Загадны лад дзеясловаў множнага ліку пісаць толькі: станьма, кіньма, станьце, кіньце, бярыце, нясіце.

23. Увесці ў беларускі правапіс дзеепрыметнікі незалежнага стану, асабліва калі яны азначаюць социяльны сэнс, напрыклад: пануючы клас, а не пануючая класа, ці класа, якая пануе.

Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Асветы і Прэзідыуму Беларускай Акадэміі Навук арганізаваць сістэматычную навуковую работу па далейшым развіцці і ўпарадкаванні беларускага правапіса, усёй граматыкі і тэрміналогіі, таксама арганізаваць новае выданне беларуска-рускіх слоўнікаў, вытраўляючы з беларускай мовы ўсялякія буржуазна-нацыяналістычныя плыні і скажэнні.

Старшыня Совета Народных Камісараў БССР
*М. Галадзед.*

Кіраўнік Спраў Совета Народных Камісараў БССР
*С. Кандыбовіч.*

26 жніўня 1933 г.
г. Менск.

## ДАДАТКІ ДА ПАСТАНОВЫ СНК БССР.

**„Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапіса“**

**Пастанова Совета Народных Камісараў БССР.**

Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

Зрабіць у пастанове СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г. „Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапіса“ (З. З. БССР 1933 г. за № 33, паст. 230) наступныя дадаткі і папраўкі:

1. Арт. 9 запісаць у наступнай рэдакцыі:

„9. Не падпарадкоўваць агульнаму правілу аб аканні, а пісаць праз „о“ наступныя інтэрнацыянальныя рэволюцыйныя словы: рэволюцыя, совет, большэвік, комуна, соцыялізм, комунізм, Комінтэрн, комсамол, пролетарый, піонер, з усімі ад іх вытворнымі словамі і новаўтварэннямі, а таксама і слова „Профінтэрн“. У астатніх іншамоўных словах замест „о“ пісаць „а“ (маналог), але захаваць „е“ („э“) (прафесар тэлеграф).

2. Пункт „д“ арт. 17 запісаць у наступнай рэдакцыі:

д) імёны і прозвішчы іншых моў і геаграфічныя назвы не перакладаць як у поўным напісанні, так і скарочаным; пачатковае „О“, „В“, „Т“, „Сч“ ва ўсіх прозвішчах і геаграфічных назвах пісаць праз „О“, „В“, „Т“, „Сч“: Владзімір Ільіч Ленін, В. І. Ленін, Іосіф Вісарыёнавіч Сталін, І. В. Сталін, Орджанікідзе, Тэрэхаў, Тэрэк, Тэрахоўка, Владзікаўказ, Владзімірскі, Твер.

3. У арт. 23 выключыць слова „асабліва“.

Старшыня Совета Народных Камісараў БССР
*М. Галадзед.*

Нам. Кіраўніка Спраў Совета Народных
Камісараў БССР *А. Мацко.*

---

## I. ФАНЕТЫКА.

### А. ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ.

**Правіла 1.** Галосныя *о, ё, э* пішуцца толькі пад націскам:

| | | |
|---|---|---|
| го́рад | лётчык | гэ́ты |
| мо́ва | заўсёды | рэ́кі |
| мо́ладзь | сёння | жэ́рдка |
| во́ды | сёлы | цэ́гла |
| ко́ла | цёплы | цэ́ны |
| го́ры | | |

**Правіла 2.** Галосныя *о, э* не пад націскам заўсёды змяняюцца на *а:*

| | | |
|---|---|---|
| до́м —дамы́ | но́гі —нага́ | цэ́ны —цана́ |
| сто́л —сталы́ | ко́сы —каса́ | шэ́ры —шара́к |
| го́рад —гарады́ | во́сем —васьмі́ | шэ́пты —шапта́ць |
| во́ды —вада́ | рэ́кі —рака́ | жэ́рдка—жардзі́на |
| го́ры —гара́ | шэ́сць—шасці́ | чэ́рап —чарапы́ |

У некаторых словах склады *ро, ло* не пад націскам пераходзяць у *ры, лы:*

гро́м —грымі́ць
кро́шка—крышы́ць
кро́ў —крыві́
дро́вы —дрыво́тня
тро́х —трыма́
гло́тка —глыта́ць

**Правіла 3.** Галосная *е (ё)* не пад націскам змяняецца на *я* толькі ў першым складзе перад націскам:

| | |
|---|---|
| ле́с —лясы́ | вёдры —вядро́ |
| зе́млі—зямля́ | сёстры—сястра́ |
| дзе́нь—дзянёк | нёс —нясе́ |
| пе́нь —пянёк | лён —лянок |
| сёлы —сяло́ | вёз —вязе́. |

Але: дзе́вяць—дзевя́ты
дзе́сяць—дзеся́ты.

Ва ўсіх іншых выпадках як перад націскам, так і пасля націска пішацца *е:*

| | |
|---|---|
| земляны́ | вы́светліць |
| селяні́н | вы́ехаць |
| вестуны́ | во́сень |
| ваеніза́цыя | ве́расень |
| непісьме́нны | ве́цер |
| веліза́рны | во́зера |
| нерухо́мы | сі́ненькі |
| верацяно́ | по́ле |
| безупы́нны | бу́дзе |
| неціка́ва | жне́ек |

**Увага:** Аб напісанні ненаціскнога *е* ў канчатку слоў глядзі раздзел марфалогіі.

**Правіла 4.** *Не* і *без*, калі яны стаяць асобна, заўсёды пішуцца праз *е*:

| | |
|---|---|
| не бы́ў | не спыні́ць |
| не ідзе́ | не стра́шна |
| не бра́ў | без бра́ку |
| без ме́ры | не без вы́нікаў |
| без жа́ртаў | не без рабо́ты. |

**Правіла 5.** Этымалагічнае *я* застаецца нязменным як у націскных, так і ў ненаціскных складах:

| | |
|---|---|
| пяцігóдка | па́мяць |
| яравы́ | дро́бязь |
| мяккава́ты | за́вязь |
| по́яс | ты́сяча |
| вы́цяжка | дзе́вяць |
| цяжкава́та | дзе́сяць |
| за́яц | се́яць |
| ме́сяц | дзе́янне. |

### ✓Правапіс складаных слоў.

**Правіла 6.** Калі другая частка складанага слова ўжываецца асобна, або не з'яўляецца скарочаным словам, тады першая частка слова мае пабочны націск, пад якім у даным слове і вытворных ад яго аднаўляецца этымалагічная галосная; у гэтым выпадку абедзве часткі слова падлягаюць асобна правілу аб аканні і яканні:

| | | |
|---|---|---|
| сòцспабо́рніцтва | палітгра́мата | чòрнаво́кі |
| чырвòнаармее́ц | палітэкано́мія | штòдзённа |



| | | |
|---|---|---|
| прырòдазна́ўства | свòеасаблі́вы | сòлева́рня |
| кòлавярчэ́нне | свòечасо́вы | по́ўдзень |
| мòвазна́ўства | бòездо́льны | закòнаме́рна |
| то́рфараспрацо́ўкі | зѐмлеўпара́дкаванне | закòнада́ўства |
| дòмакіраўні́цтва | сярэ̀дневяко́вы | поўгòда |
| чэ̀хаслава́цкі | зѐмлекарыста́нне | ро́зна̀ста́йны |
| дрэ̀ваапрацо́ўчы | чырвòнакры́лы | рòзнаро́дны |
| штòго́д | цвѐрдакры́лы | |
| штòго́дны | фòторэпраду́ктар | |

| | |
|---|---|
| кінòапера́тар | кілòгра́м |
| політэхні́чны | кілòмѐтр |
| прòмфінпла́н | блòк-но́т |

Паводле-ж гэтага правіла пішуцца ўсе складаныя лічэбнікі:

| | |
|---|---|
| семнаццаць | пяцьдзеся́т |
| восемнаццаць | шэ́сцьдзесят |
| дзевятнаццаць | се́мдзесят |
| | во́семдзесят |

Але: шаснаццаць.

Калі другая частка складанага слова з'яўляецца скарочаным словам і самастойна не ўжываецца, дык усё слова і вытворныя ад яго словы пішуцца як нескладаныя:

| | |
|---|---|
| землярóб | прафко́м |
| чарназём | крывацёк |
| землярóбства | калаўро́т |
| фатагра́фія | дамасе́д |

Гэтаму правілу падлягаюць складана-скарочаныя словы тыпу:

| | |
|---|---|
| гарко́м | нарко́м |
| камсо́д | дзятко́р |

Але: селько́р
сельпо́
легпро́м.

### Правапіс *у* і *ў*.

**Правіла 7.** Пасля галосных заўсёды пішацца *ў*:

| | | |
|---|---|---|
| савецкая ўлада | садоўнік | Магілеў |
| лепшы ўдарнік | пісаў | воўк |
| прыехалі ў горад | чытаў | роўны |

Калі ў іншамоўных словах *у* пасля галосных з'яўляецца асобным складам, дык пішацца *у*:

| | |
|---|---|
| прэзідыум | калёквіум |
| кансіліум | трыумвірат |

Калі-ж папярэдняе слова канчаецца на зычны (а таксама на *ў* і *й*), або калі *у* пачынае новы сказ, ці стаіць пасля якога-небудзь знака прыпынку, тады пішацца *у*:

Разгорнем ударніцтва і соцспаборніцтва.

Ударніцтва і соцспаборніцтва—большэвіцкія метады працы.

Нашы метады працы—ударніцтва і соцспаборніцтва.

Я прыехаў у горад.

### *В* перад націскнымі *о, у* на пачатку слова.

**Правіла 8.** Перад пачатковымі націскнымі галоснымі *о, у* заўсёды пішацца *в*, за выключэннем геаграфічных назваў:

| | |
|---|---|
| во́сень | ву́ліца |
| во́сем | ву́чань |
| во́кны | ву́галь |
| во́рыва | ву́зел |
| во́стры | ву́с |
| во́браз | ву́ха |
| во́гнік | ву́сны |
| во́льха | |

Але: Орша, Ула, Уса.

Перад ненаціскным *у* пішацца *в* тады, калі гэта *у* не з'яўляецца прыставачным і не развілося з *в*:

| | |
|---|---|
| вучы́цца | вужа́ка |
| вуша́мі | вуса́ты |
| вугра́мі | |

| | |
|---|---|
| Але: ~~учот~~ | удо́ўж |
| уча̀стак | удзе́л |
| ува̀га | ула́да |
| увя̀зка | ура́д |

**Увага.** У словах іншамоўнага паходжання перад пачатковым *о, у* прыставачнае *в* не пішацца. Таксама ў іншамоўных словах не пішацца прыставачнае *г*:

| | | |
|---|---|---|
| о́рган | у́нікум | іро̀нія |
| о́да | у́нія | істэ̀рыя |
| о́пера | у́рна | Але: гісто̀рыя |
| о́рдэн | | |

Пасля прыназоўнікаў перад пачатковым ненаціскным *а* не пішацца *в*:

| | |
|---|---|
| у агні | на акне |
| у акне | у адрыне |



### Правапіс галосных пасля зацвярдзелых *р, ж, дж, ч, ш, ц.*

**Правіла 9.** Пасля зацвярдзелых зычных *р, ж, дж, ч, ш, ц* (калі *ц* не з *т* мяккага) ніколі не пішуцца літары *і, е, я, ё, ю, ь:*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| тры | трэба | гразь | бяроза | сакратар |
| жыць | жэрдка | грады | жоўты | печ |
| шыць | цэгла | бручка | шчотка | мыш |
| чысты | цэлы | гавару | ішоў | пасяджэнне |

## Б. ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ.

### Правапіс працяжных зычных *л, н, с, ц, дз, з, ж, ч, ш.*

**Правіла 10.** Працяжнае вымаўленне зычных *л, н, с, ц, з, ж, ч, ш* адзначаецца падвойным напісаннем гэтых зычных без мяккага знака *(ь)* паміж імі, працяжнае-ж *дз* перадаецца на пісьме праз *ддз*:

| | |
|---|---|
| галлё | соллю |
| ралля | насенне |
| пытанне | зацішша |
| кассё | збожжа |
| калоссе | жыццё |
| граззю | суддзя |
| смецце | разводдзе |
| маззю | меддзю |
| ноччу |назіранне |

Але: лье.

**Губныя** зычныя *б, п, ф, м,* а таксама *р* не падоўжваюцца:

| | |
|---|---|
| давер'е | куп'ё |
| надвор'е | сям'я |
| бязрыб'е | саф'ян |

**Увага.** Не атрымліваецца падаўжэнне зычнай і ў тых выпадках, калі перад ёй стаіць яшчэ адна зычная:

| | |
|---|---|
| нацыянальнасцю | мыслю |
| прамысловасцю | косцю |

Два *н* пішуцца пры злучэнні *н* як апошняга гуку кораня або суфікса з другім суфіксальным *н*:

| | |
|---|---|
| раённы | карэнны |
| конны | каменны |
| дзённы | раменны |
| адменны | сонны |

Таксама захоўваецца падвойнае напісанне зычных і ў тых выпадках, калі мы маем злучэнне *з* або *с* прыставачнага з гэтымі-ж гукамі кораня:

| | |
|---|---|
| рассмяяцца | раззнаёміцца |
| расспявацца | рассадзіць |
| ссыпаць | россып |

Але: расада.

### Правапіс мяккіх зычных.

**Правіла 11.** Мяккасць зычных перад наступнымі мяккімі зычнымі не адзначаецца, г. зн. пасля іх не пішацца мяккі знак:

| | | |
|---|---|---|
| зняць | дзве | дзверы |
| звер | цвісці | сцвердзіць |
| свет | згінуць | мядзведзь |
| снег | скінуць | цвёрды |
| след | схіліцца | цвярозы |
| смех | радасць | шэсць |
| ёсць | | есці. |

Этымалагічны *ь* як перад цвёрдым складам, так і перад мяккім захоўваецца:

| | | | |
|---|---|---|---|
| рэдзька— | рэдзькі | жнівеньскі | будзьце |
| пісьмо— | у пісьме, пісьменны | снежаньскі | станьце |
| процьма— | у процьме | верасеньскі | кіньце |
| касьба— | у касьбе | толькі | сядзьце |
| барацьба— | у барацьбе | вельмі | перасільце |
| дзядзька— | дзядзькі | носьбіт | людзьмі |
| бацька— | бацькі | вугальчык | коньмі |
| восьмы— | васьмі | агоньчык | дзецьмі |
| студзеньскі | | каменьчык | штосьці |
| чэрвеньскі | | праменьчык | чагосьці |
| ліпеньскі | | карэньчык | |

Але: кончыць, кончык,
конскі, меншы

У суфіксе *ств* гук *т* не падлягае памякчэнню на *ц*:

| | |
|---|---|
| у гаспадарстве | у грамадазнаўстве |
| у прыродазнаўстве | у грамадстве |



### Правапіс глухіх і звонкіх зычных.

**Правіла 12.** Пераход звонкага ў глухі і, наадварот, глухога ў звонкі ў сярэдзіне слоў на пісьме не адзначаецца; таксама не адзначаецца пераход звонкага ў глухі на канцы слоў:

| | | |
|---|---|---|
| блізка | следчы | воз |
| казка | бабка | мазь |
| будка | просьба | нож |
| дзядзька | касьба | дзед |
| ножка | носьбіт | хлеб |
| мужчына | малацьба | грыб |
| гарадскі | кадка | рог |

Гэта правіла не пашыраецца на прыстаўкі *з, уз, раз, без, цераз,* у якіх перад глухімі зычнымі гук *з* пераходзіць у *с*:

| | |
|---|---|
| спроба | расход |
| ссыпаць | бясплодны |
| схапіць | бясспрэчны |
| усхваляваць | цераспалосіца |
| раскідаць | сцэпшчык |

### Правапіс шыпячых і свісцячых зычных.

**Правіла 13.** Пераход свісцячых перад шыпячымі ў шыпячыя і, наадварот, шыпячых у свісцячыя на пісьме не адзначаецца:

| | |
|---|---|
| возчык | на рэчцы |
| прыязджаць | дачцы |
| прыказчык | у дзежцы |
| разносчык | на дошцы |
| перапісчык | расчыняць |
| пясчаны | расшчапіць |
| цешышся | |

Але: шчасце, рошчына.

### Правапіс злучэнняў карэнных зычных з суфіксамі.

**Правіла 14.** У злучэннях карэнных зычных *д, т* з суфіксальным *ч* гэтыя зычныя захоўваюцца нязменнымі:

следчы
падводчык
суседчын
матчын

**Правіла 15.** Злучэнне *т* з суфіксальным *с* пераходзіць у *ц*:

| | |
|---|---|
| марксісцкі | дэлегацкі |
| студэнцкі | кранштацкі |
| полацкі | брацтва |
| брацкі | студэнцтва |

У злучэнні карэннага *д* з суфіксальным *с* гэта *д* захоўваецца нязменным:

| | |
|---|---|
| гарадскі | суседства |
| ленінградскі | грамадства |
| заводскі | раслінаводства |
| грамадскі | |

**Правіла 16.** Злучэнне *ць—ся* у трэцяй асобе і ў неазначальнай форме дзеясловаў пасля галоснага змяняецца на *цца*, а пасля зычнага на *ца*:

| | |
|---|---|
| змагаецца | ал'есца |
| змагаюцца | здасца |

Лічэбнікі ад 11 да 30 пішуцца праз *ццаць*:

| | |
|---|---|
| адзінаццаць | дзевятнаццаць |
| дванаццаць | дваццаць |
| трынаццаць | трыццаць |

**Правіла 17.** У злучэннях зычных *к, ц, ч* з суфіксальным *с* гэтыя зычныя зліваюцца з ім у *ц*:

| | |
|---|---|
| большэвіцкі | батрацтва |
| ткацкі | бядняцтва |
| сваяцкі | мастацтва |
| мастацкі | выдавецтва |
| выдавецкі | |

Карэннае *с* з суфіксальным *с* зліваюцца ў адно *с*:

| | |
|---|---|
| беларускі | одэскі |
| палескі | тыфліскі |

Але ў зваротных дзеясловах карэннае *с* з *ся* не зліваецца:

аднёсся
ватросся

**Правіла 18.** Зычныя *г, ж, з, х, ш* у геаграфічных назвах не зліваюцца з суфіксальным *с*, прычым *г, х* у большасці выпадкаў змяняюцца на *ж, ш*:

| | |
|---|---|
| рыжскі | мсціжскі |
| волжскі | абхазскі |
| пражскі | кіргізскі |
| парыжскі | каўказскі |



| | |
|---|---|
| суражскі | французскі |
| вяліжскі | чэшскі |
| варонежскі | чувашскі |

У некаторых геаграфічных назвах *г, к, х* не змяняюцца на *ж, ш, ц*:

| | |
|---|---|
| цурыхскі | выбаргскі |
| узбекскі | орэнбургскі |
| | маздокскі |

У іншых выпадках *ж* і *ш* перад суфіксальным *с* не пішуцца:

| | |
|---|---|
| мноства | таварыскі |
| прыгоства | таварыства |
| | хараство і г. д. |

## Правапіс некаторых злучэнняў зычных.

**Правіла 19.** У злучэннях *стн, стл, здн, рдц* гукі *д* і *т* у вымаўленні выпадаюць і на пісьме не адзначаюцца:

| | |
|---|---|
| пачэсны | шчаслівы |
| пасланы | позны |
| сэрца | існаваць |



## Апостраф і мяккі знак.

**Правіла 20.** Для вызначэння раздзельнага вымаўлення зычнага з наступным галосным пішацца апостраф ('):

| | | |
|---|---|---|
| аб'езд | сям'я | рант'е |
| аб'ява | п'яўка | Кавен'як |
| пад'ехаць | пер'я | кан'як |
| пад'есці | надвор'е | кан'юнктура |
| з'ява | б'ецца | суб'ект |
| з'есці | Лавуаз'е | Барб'е |
| раз'юшаны | манпас'е | бар'ер |
| раз'ядаць | | |

Пасля *л* пішацца не апостраф, а *ь*: ...лье, рэльеф, Мальер.

**Правіла 21.** *Л* перад суфіксам *ц* заўсёды пішацца з мяккім знакам:

| | |
|---|---|
| кальцо | мальцы |
| сальца | вальцы |
| пальцы | відэльцы |

## II. ПРАВАПІС СЛОЎ ІНШАМОЎНАГА ПАХОДЖАННЯ.

**Правіла 22.** Інтэрнацыянальна-рэволюцыйныя словы і ўсе вытворныя ад іх не падпарадкоўваюцца агульнаму правілу аб аканні:

| | | | |
|---|---|---|---|
| рэволю́цыя | соцыялі́зм | Комінтэ́рн | рэволюцыйны |
| сове́т | кому́на | комсамо́л | Соўнарком |
| пролета́рый | комуні́зм | піоне́р | пролетарыят |
| большэві́к | | | большэвіцкі |
| і слова—Профінтэ́рн | | | соўгас |
| | | | соцыялістычны |
| | | | комунар |
| | | | комуніст |
| | | | комсамольскі |
| | | | і г. д. |

Астатнія словы падпарадкоўваюцца правілу акання з выключэннем канчаткаў, у якіх *о (ё)* захоўваецца:

| | | |
|---|---|---|
| прафе́сар | манало́г | не́то |
| каапера́цыя | камі́сія | інко́гніто |
| арганіза́цыя | кансі́ліум | ра́дыё |
| манапла́н | бру́то | тры́ё |

Але ў вузка-навуковых тэрмінах, асабліва там, дзе з літарамі *о, а* звязваецца сэнсавае адрозніванне, або дзе ствараюцца амонімы ў данай галіне навукі, захоўваецца ненаціскное *о:*

оксо — і окса } у хіміі.
орсін — і арсін }

**Правіла 23.** Іншамоўнае *е (э)* пасля зычных пішацца праз *е:*

| | | |
|---|---|---|
| методыка | эпапея | педаль |
| геаграфія | эстафета | гейзер |
| педагог | фанетыка | зеніт |
| медычны | геалогія | |

Пасля *д* і *т* іншамоўнае *е (э)* пішацца праз *э:*

| | | |
|---|---|---|
| дэлегат | дэмпінг | дэмакратыя |
| матэрыялізм | дэманстрацыя | тэлеграф |
| тэатр | тэлескоп | тэхнікум |

У даўно запазычаных словах *е (э)* перадаваць праз *а,*

| | |
|---|---|
| гандаль | адрас |
| характар | сакратар |
| літаратура | літара |
| адукацыя | далікатны |
| дзяжурства | рамонт |



**Правіла 24.** Складаныя словы іншамоўнага паходжання падлягаюць правілам аб напісанні беларускіх складаных слоў (гл. правіла 6).

**Правіла 25.** У словах іншамоўнага паходжання *і* пасля *д, т* і зацвярдзелых зычных *р, ц, ж, дж, ч, ш* перадаецца праз *ы,* пасля ўсіх іншых зычных праз *і:*

| | |
|---|---|
| марксізм | ізаляцыя |
| партыя | міліцыя |
| дырэктар | рэжым |
| дывізія | жыро |
| дылема | фізіка |
| тыран | азімут |
| калектыў | універсітэт |
| актыў | сістэма |
| аварыя | сінус |

Але: музыка, цір.

Перад суфіксамі, якія пачынаюцца з галосных *е, і,* гукі *д, т* пераходзяць у *дз, ц:*

| | |
|---|---|
| марадзёр | гвардзейскі |
| білецёр | будзіраваць |
| манцёр | білецік |
| парламенцёр | эпізодзік |
| плаціна | карціна |

**Правіла 26.** Іншамоўныя злучэнні *іо* (не пад націскам), а таксама *іа* перадаюцца праз *ія,* а пасля зацвярдзелых *ж, дж, ч, ш, ц, р* і пасля *д* і *т*—праз *ыя:*

| | |
|---|---|
| соцыялізм | бібліяграфія |
| геніяльны | бібліятэка |
| філіяльны | геліятроп |
| індустрыялізацыя | біялогія |
| спецыяльны | эмбрыянальны |
| варыянт | рэвізіянізм |
| матэрыялізм | перыяд |

Але: радыё, трыё.

Злучэнне *іо* пад націскам перадаецца праз *іё (ыё):*

| | |
|---|---|
| бібліёграф | эмбрыёлаг |
| біёлаг | стадыён |
| аксіёма | ідыёт |

Злучэнне *іе* перадаецца праз *іе (ые):*

| | |
|---|---|
| гігіена | арыентацыя |
| кліент | дыета |
| аудыенцыя | іерогліф |
| гігіенічны | кліентура |

Злучэнне *iу (iu)* перадаецца праз *iу (ыу)*:

| | |
|---|---|
| кансіліум | трыумвірат |
| прасцэніум | радыус |
| прэзідыум | |

У некаторых даўно запазычаных словах пасля *р* галосная *ы* выпадае, замяняючыся апострафам:

кур'ёзны
сур'ёзны

**Правіла 27.** У словах іншамоўнага паходжання *l (л)* перадаецца пераважна цвёрда:

| | | | |
|---|---|---|---|
| клас | фабула | пракламацыя | калонія |
| метал | формула | флот | лакамабіль |
| бензол | аэраплан | фланг | пілот |
| алмаз | бланк | лагер | блуза |
| вулкан | філасофія | апладысменты | клуб |
| балкон | ланцэт | блок | лупа |
| Балтыка | лафет | глобус | лагарыфм |
| Балканы | план | дыплом | лабараторыя |
| малекула | плагіят | кіло | амбулаторыя |
| бацыла | платформа | ландшафт | лубін |

Але ў тых выпадках, калі ў жывой мове іншамоўнае *l (л)* вымаўляецца мякка, пішацца *ль, ля, лю, лё*:

| | | |
|---|---|---|
| бінокль | альфа | алюміній |
| аўтамабіль | альт | ілюмінацыя |
| мараль | асфальт | люк |
| стыль | астралябія | плюс |
| вадэвіль | лямпа | валюта |
| педаль | пляц | абсалютызм |
| дэталь | калёквіум | люстра |

Паслядоўна мяккае *л* пішацца ў злучэннях *лі, ле, ляваць, люцыя, ляр, лярны, лятар, льны*:

| | |
|---|---|
| ліміт | палярны |
| легальны | рэгулятар |
| фармуляваць | акумулятар |
| ізаляваць | кампілятар |
| эвалюцыя | актуальны |
| перпендыкуляр | універсальны |

**Правіла 28.** У словах іншамоўнага паходжання падвойныя зычныя на пісьме не адзначаюцца:

комуна
апарат
праграма
асіміляцыя



Але: ванна
бонна
манна

**Правіла 29.** Французскае *u* і нямецкае *ü* перадаюцца праз *ю*, пасля зацвярдзелых *ж, дж, ч, ш, ц*, а таксама пасля *д, т*—праз *у*:

| | |
|---|---|
| бюст | нактурн |
| бюро | душэс |
| вестыбюль | журы |
| нюанс | брашура |
| Мюрат | тульпан |
| пюрэ | мініятура |

Але: дзюна
эцюд

**Правіла 30.** Нямецкае злучэнне *ei* перадаецца праз *эй, ей*:

гейзер
Швейцарыя
рэйнвейн
лейтматыў
Лейбніц

**Правіла 31.** Іншамоўнае *th*, грэцк θ (фіта) перадаецца пераважна праз *ф*:

| | |
|---|---|
| арыфметыка | міф |
| арфаграфія | дыфірамб |
| лагарыфм | Афіны |
| пафас | Піфагор |
| эфір | кафедра |

| | |
|---|---|
| Але: тэатр | бібліятэка |
| тэарэма | тэорыя |
| тэзіс | метад |

**Правіла 32.** Іншамоўнае *f*, грэцк. φ (фі) перадаецца праз *ф*:

| | |
|---|---|
| форма | торф |
| фунт | фабрыка |
| фантазія | фельчар |
| тыф | |

**Правіла 33.** У словах іншамоўнага паходжання суфікс *ір (ir)* прапускаецца:

| | |
|---|---|
| канстантаваць | стымуляваць |
| аналізаваць | сілуляваць |
| сабатаваць | абстрагаваць |
| дэлегаваць | |

Суфікс *ір* пішацца толькі ў тых выпадках, калі без *і* слова змяняе сваё значэнне:

| | |
|---|---|
| камандзіраваць | суміраваць |
| манкіраваць | мусіраваць |
| будзіраваць | утрыраваць |
| капіраваць | прэміраваць |
| вар'іраваць | трэціраваць |

**Правіла 34.** Канчаткі *eur, aire* перадаюцца праз *ер* ці праз *ё*

| | | |
|---|---|---|
| шофер | рэзанёр | кантралёр |
| міліцыянер | парламенцёр | манцёр |
| інжынер | антрэпрэнёр | марадзёр |
| акцыянер | рэжысёр | білецёр |

**Правіла 35.** Злучэнні *тр, др* у канцы слоў іншамоўна паходжання перадаюцца без змен:

| | |
|---|---|
| метр | дыяметр |
| літр | магістр |
| барометр | кадр |

**Правіла 36.** Словы іншамоўнага паходжання тыпу *пролет рый, барый, алюміній* пішуцца з канчаткамі *ы ій* і скланяюцца як беларускія назоўнікі ты *май:*

| | | |
|---|---|---|
| пролетарый | барый | алюміній |
| пролетарыя | барыя | алюмінія |
| пролетарыю | барыю | алюмінію |

**Правіла 37.** Такія словы, як *комуніст, марксіст* пішуц без канчатка *ы* і скланяюцца, як назоўнікі ты *брат:*

| | |
|---|---|
| марксіст | комуніст |
| марксіста | комуніста |
| марксісту | комуністу |

**Правіла 38.** У словах іншамоўнага паходжання, якія канч юцца на *дт*, літара *д* не пішацца:

| | |
|---|---|
| Кранштат | Гумбольт |
| Маркштат | фарштат |

**Правіла 39.** Прыметнікі, створаныя ад слоў, якія канчаюц на *сія, цыя*, пішуцца з канчаткам *сійны, цыйн*

| | |
|---|---|
| флексійны | каапарацыйны |
| камісійны | асацыяцыйны |
| аперацыйны | арганізацыйны |



Прыметнікі, створаныя ад слоў з канчаткамі на *іў, ыў (iv),* маюць канчаткі *іўны, ыўны:*

| | |
|---|---|
| курсіўны | калектыўны |
| масіўны | кааператыўны |
| прагрэсіўны | рэактыўны |
| аператыўны | актыўны |

Словы, якія перайшлі ў беларускую мову з канчаткамі *ён, іён (on, ion),* ствараюць прыметнікі на *іённы, ыённы:*

| | |
|---|---|
| пансіённы | рацыённы |
| ілюзіённы | парцыённы |

Суфікс прыметнікаў *ональ (on-al)* захоўваецца (з адпаведнымі фанетычнымі зменамі):

| | |
|---|---|
| эмацыянальны | эмбрыянальны |
| інтэрнацыянальны | нацыянальны |

## II. ПРАВАПІС УЛАСНЫХ ІМЁНАЎ, ПРОЗВІШЧАЎ І ГЕАГРАФІЧНЫХ НАЗВАЎ.

**Правіла 40.** Уласныя беларускія прозвішчы і геаграфічныя назвы пішуцца згодна вымаўлення:

| | |
|---|---|
| Галадзед | Віцебск |
| Чарвякоў | Слуцк (Слуцак) |
| Шаранговіч | Полацк (Полацак) |
| Чарнушэвіч | Магілеў |
| Цярэшка | Рагачоў |

**Правіла 41.** Імёны іншых моў, прозвішчы і геаграфічныя назвы пішуцца з захаваннем асаблівасцей той мовы, з якой яны ўзяты, падпарадкоўваючыся наступным правілам беларускага правапіса, прынятым для іншамоўных агульных імёнаў, а іменна:

а) правілу аб аканні (з захаваннем *э, е*):

| | |
|---|---|
| Шэўчэнка | Постышэў |
| Белінскі | Плеханаў |
| Тэрэшчэнка | Ноўгарад |
| Чэрнышэўскі | Егор'еўск |

б) правілу аб напісанні галосных пасля зацвярдзелых зычных:

| | |
|---|---|
| Пісарэў | Чэлябінск |
| Жэлябаў | Жытомір |
| Кржыжаноўскі | Чыстопаль |
| Чысцякоў | Кашыра |
| Разань | Чэрэпавец |

в) правілу аб дзеканні і цэканні, калі зычныя *д*, з'яўляюцца мяккімі ў іншай мове:

| | |
|---|---|
| Дзержынскі | Анціпаў |
| Кацельніч | Владзівасток |

Але: Одэса, Вальтэр

г) правілу аб пераходзе *в* у *ў* на канцы складоў:

| | |
|---|---|
| Молатаў | Каўказ |
| Варашылаў | Роўна |
| Якаўлеў | Кіеў |

Прозвішчы і імёны іншых моў, а таксама геаграфічн назвы не перакладаюцца як у поўным напісанні, так і ў ск рочанным (ініцыялы), прычым пачатковае *О, В, Сч,* передаваць заўсёды праз *О, В, Сч, Т:*

| | |
|---|---|
| Іосіф Вісарыёнавіч Сталін | Талстой |
| І. В. Сталін | Волкаў |
| Орджанікідзе | Счастліўцэў |
| Владзікаўказ | Югаславія |
| Владзівасток | Краснадар |
| Волга | Тераховка |
| Тіханаў | Тюмень |

Пачатковае *Э* таксама захоўваецца: Эрывань, Эрзер

Але: Еўропа, Еўпаторыя, Егіпет.

Калі геаграфічныя назвы складаюцца з некальк слоў, якія асобна ўжываюцца, як агульныя словы, гэт словы перакладаюцца, напрыклад:

| | |
|---|---|
| Далёкі Ўсход | Паўднёвая Амерыка |
| Паўночны Каўказ | Паўночна-Амерыканскія |
| Чырвонае мора | Злучаныя Штаты |

Усесаюзная комуністычная партыя (большэвікоў) у ск рочаным напісанні пішацца не *УсеКП(б)*, а *ВКП(б)*, а такс *ВЛКСМ* і *ВЦСПС*.

Уласныя беларускія імёны пісаць паводле жадання носьбітаў:

Васіль або Базыль
Осіп або Язэп
Іван або Янка
Міхаіл, Міхась або Міхал
Паўла, Паўлюк, Павал, Павел



# IV. МАРФАЛОГІЯ.

## Правапіс склонавых канчаткаў назоўнікаў.

Правіла 42. Назоўнікі ніякага роду з асновамі на цвёрды і зацвярдзелы зычны ў назоўным і вінавальным склонах маюць канчаткі *о* (пад націскам) і *а* (не пад націскам):

| | |
|---|---|
| сцябло̀ | бало̀та |
| звяно̀ | рэ̀шата |
| акно̀ | дрэ̀ва |
| валакно̀ | сло̀ва |
| дабро̀ | мо̀ра |
| ядро̀ | во̀зера |
| гнязд̀о | со̀нца |

Назоўнікі ніякага роду з асновай на мяккі зычны маюць канчаткі *ё* (пад націскам) і *е* (не пад націскам):

| | |
|---|---|
| жыццё | насѐнне |
| галлё | змага̀нне |
| лам'ё | раздо̀лле |
| асцё | шча̀сце |
| трысцё | разво̀ддзе |
| пачуццё | надво̀р'е |
| по̀ле | здаро̀ўе |

Назоўнікі, якія абазначаюць маладых жывёл, маюць канчатак *ё:*

| | |
|---|---|
| цялё | ягнё |
| парасё | шчанё |
| жарабё | кацянё |

Але дапускаецца і канчатак *я:*

| | |
|---|---|
| цяля | ягня |
| парася | шчаня |
| жарабя | кацяня |

Назоўнікі ніякага роду на *мя* маюць толькі канчатак *я:*

| | |
|---|---|
| імя | стрэмя |
| семя | вымя |
| цемя | полымя |

Правіла 43. Назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзін. л. маюць пераважна канчаткі *а, я.*

Канчаткі *а, я* пішуцца ў наступных катэгорыях назоўнікаў: а) у назвах жывых прадметаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| слесара | агранома | Анісіма | ястраба |
| столяра | настаўніка | каваля | вала |
| брата | Івана | сокала | каня |
| краўца | Сцяпана | арла | ласся |

